ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (22) студзень 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны

# ВІЦЕБШЧЫНА МАЕ ТАЛЕНТЫ!

**Ну, вось, здаецца, і мінула свята Божага Нараджэння, але ў сэрцах каталікоў па-ранейшаму пануе святочная атмасфера, якая, між іншым, падтрымліваецца праведзеннем калядных конкурсаў у Віцебскай дыяцэзіі. Так, 3 студзеня ў Мёрах адбыўся фестываль каляднай песні "Зорка Бэтлеему", а 5 студзеня ў Віцебску прайшоў конкурс дзіцячай самадзейнасці "Езус нарадзіўся".**

■ **Вікторыя Колзун**, *тэкст;* **кс. Віктар Місевіч**, *фота*

Адметнасцю конкурсу стала тое, што ў гэтым годзе ён адбыўся не як звычайна – у дзяржаўным універсітэце, а ўпершыню быў праведзены ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага.

Арганізаваў гэты цудоўны калядны конкурс кс. Андрэй Кулік, пробашч віцебскай парафіі св. Уладзіслава і дэкан віцебскага дэканата Віцебск-Поўдзень.

На конкурс дзіцячай самадзейнасці "Езус нарадзіўся" прыехала вельмі шмат дзяцей, моладзі, і нават дарослых людзей. Усяго было 14 заяўленых калектываў з розных куткоў Віцебскай дыяцэзіі. Сабралася і немала гледачоў, многія віцебскія дзеткі прыйшлі з бацькамі, а тыя, хто жыве далёка, прыехалі разам са сваімі святарамі і законнымі сёстрамі.

Было прадстаўлена шмат цікавых батлеек. Моладзь з Глыбокага праспявала прыгожыя калядныя спевы, а музычны квартэт скрыпачоў з Друі зачароўваў слухачоў прыгажосцю музыкі.

Узрушаны святочнай атмасферай конкурсу біскуп Уладзіслаў Блін падзяліўся з усімі ўспамінамі са свайго дзяцінства: "Памятаю сваю першую ў жыцці батлейку. Мяне прынеслі ў касцёл бацькі, бо я быў яшчэ зусім маленькі, меў толькі тры гады. Тата пасадзіў мяне да сябе на шыю, каб мне было больш бачна. І гэтая першая ўбачаная мною батлейка засталася ў маіх успамінах на ўсё жыццё. Таму так важны гэты конкурс для нашых дзетак і моладзі – будучыні Касцёла".

Хрысціянскі конкурс, напэўна, тым і адметны, што на ім няма атмасферы спаборніцтва і канкурэнцыі. Сярод удзельнікаў панаваў дух сяброўства і ўзаемнай любові. Але журы ўсё ж такі вызначыла пераможцаў.

У намінацыі "Батлейка" першае месца заняў калектыў з Браслава, а ў намінацыі "Калядная песня" дыплом І ступені атрымаў музычны квартэт з Друі. Дыплом ІІ ступені ў той жа намінацыі ўручылі музычнаму калектыву з Глыбокага. Усе астатнія ўдзельнікі конкурсу атрымалі дыпломы і салодкія падарункі.

Напрыканцы мерапрыемства біскуп Уладзіслаў сардэчна падзякаваў усім удзельнікам і арганізатарам мерапрыемства і запрасіў рыхтавацца да ўдзелу ў калядным конкурсе ў наступным годзе.



## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік"! Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні Белпошты.

Вы можаце падпісацца самі, а таксама падпісаць свайго сябра.

Падарыце Добрую Вестку родным і блізкім!

**Кошт "Весніка" ў новым паўгоддзі на 1 месяц – 2550 руб.**

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

**Заставайцеся з намі!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

### Taizé

**Беларусы маліліся ў Рыме.**
**Старонка 6.**



### Пакістан

**Пра праслед хрысціянаў** **чытайце на стар. 2.**



### Ахрэмаўцы

**Пра юбілей у парафіі** **чытайце на стар. 3.**



### Что нужно подростку?

**Пишет психолог** **Юрий Романюк на стр. 9.**






# Медалі за служэнне

**У мінскім касцёле святых Сымона і Алены 18 снежня адбылося ўручэнне папскіх медалёў «Bene merenti» – «Заслужаным» – асобам, якія зрабілі вялікі ўклад у развіццё Касцёла ў нашай краіне: Аліне Новікавай, Хрысціне Лялько і Івану Гумоўскаму.**

Высокія ўзнагароды Святога Айца ўручыў у прысутнасці Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.

Аліна Новікава – дырэктар выдавецтва «Pro Christo». Хрысціна Лялько – пісьменніца, галоўны рэдактар часопісаў «Ave Maria» і «Наша вера». Іван Гумоўскі – фундатар касцёла св. Антонія ў Мар'інай Горцы.

«Я вельмі рады, што магу зрабіць гэты жэст», – прызнаўся Апостальскі Нунцый падчас цырымоніі ўручэння ўзнагародаў. Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці адзначыў, што «Касцёл, як нагадвае Другі Ватыканскі Сабор, – гэта перадусім народ Божы». «Мы, духавенства, знаходзімся на службе гэтаму Божаму народу», – дадаў прадстаўнік Святога Айца.

Па словах Нунцыя, без народа Касцёл быў бы галавой без цела, і менавіта вернікі ствараюць Цела Хрыстова. «І гэта цудоўна, што некаторыя з вас робяць такі вялікі ўклад у жыццё Касцёла», – падкрэсліў арцыбіскуп, дадаўшы, што адчувае гонар праз тое, што ў Касцёле ў Беларусі ёсць такія людзі.

Ад імя ўзнагароджаных медалямі «Bene merenti» словы падзякі выказала Хрысціна Лялько. „Пра тое, чым напоўнена сэрца, гавораць вусны..." (Лк 6, 45). Нашыя сэрцы сёння напоўнены глыбокаю ўдзячнасцю", – адзначыла прамоўца. Хрысціна Лялько папрасіла Апостальскага Нунцыя перадаць "шчырую ўдзячнасць Святому Айцу Бэнэдыкту XVI", перадаць "нашу глыбокую пашану, любоў і адданасць, а таксама нашу заўсёдную малітоўную падтрымку і памяць".

«Гэта прыгожая матывацыя для нашай далейшай працы, – падкрэсліла рэдактар каталіцкіх часопісаў, кажучы пра высокія папскія ўзнагароды. – Ад самага пачатку мы ўспрымалі і ўспрымаем сваю працу як служэнне на хвалу Пана Бога і дзеля дабра Яго святога Касцёла». Як дадала Хрысціна Лялько, «дзеля Хрыстовай любові і ў імя яе, калі дазволіць Божая міласэрнасць, мы будзем руплівa працаваць і далей, каб дапамагаць нашым беларускім чытачам адкрываць багацце і глыбіню каталіцкай веры ў „яе паўнаце і з аднаўленаю перакананасцю", праз каталіцкія выданні будзем садзейнічаць новай евангелізацыі і пашырэнню Хрыстовага валадарства любові ў гэтым азяблым свеце».

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў асаблівы ўдзел Аліны Новікавай, Хрысціны Лялько і Івана Гумоўскага ў адраджэнні і станаўленні Касцёла ў нашай краіне. «Спадарыні Аліна Новікава і Хрысціна Лялько сталі ля вытокаў выдання рэлігійнай літаратуры на беларускай мове і ўвогуле каталіцкай выдавецкай працы. Спадар Іван Гумоўскі вельмі дапамог у тым, каб парафія Св. Антонія ў Мар'інай Горцы мела сваю святыню. Іх прыклад – гэта прыклад адданага служэння свецкіх людзей Касцёлу», – адзначыў арцыпастыр.

Мітрапаліт падзякаваў Аліне Новікавай, Хрысціне Лялько і Івану Гумоўскаму за ахвярнасць і працу і пажадаў поспехаў у жыцці і ў далейшай дзейнасці.

*catholic.by*

# Пайду на смерць без страху...

**З гісторыі Касцёла вядома, што ад самага пачатку хрысціяне былі жорстка пераследаваныя за вызнаванне веры ў Хрыста, шмат пралілі за веру крыві.**

**с. Марына Раманчук**



Так было на працягу ўсёй гісторыі хрысціянства, аж да сучаснасці, бо пераслед не скончыўся. Тады нашых братоў у веры абвінавачвалі ў самых горшых учынках, на іх ускладалі віну за ўсялякія няшчасці і нават катаклізмы, і за гэта забівалі: складалі ў ахвяру багам, укрыжоўвалі, у амфітэатрах раздзіралі іх ільвы, апраналі ў скуры дзікіх жывёл і кідалі раз'юшаным сабакам, падпальвалі і рабілі з іх жывыя паходні.

Сёння больш чым у 50 краінах свету хрысціяне цярпяць пераслед, таму, што абралі Хрыста. А гэта значыць, што ў кожнай трэцяй краіне не захоўваецца адно з галоўных правоў чалавека – свабода веравызнання (арт. 18 Паўсюднай Дэкларацыі Правоў Чалавека). Ад моманту з'яўлення хрысціянства на зямлі сваё жыццё за веру аддалі каля 70 млн. чалавек, і з кожным годам іх лічба толькі павялічвалася.

Хацелася б яшчэ прывесці канкрэтны прыклад пераследу і распавесці пра пакістанскую хрысціянку, якая вось ужо чацвёрты год знаходзіцца ў турме, дзе чакае выканання смяротнага прысуду – павешання.

Азія (Асія) Бібі (нар. у 1971 г. у Пакістане) – маці пяцярых дзяцей і першая жанчына ў гісторыі Пакістана, асуджаная на смерць за блюзнерства супраць Магамета. У чэрвені 2009 года Азія разам з мусульманскімі жанчынамі працавала ў полі недалёка ад вёскі, дзе пражывала з сям'ёй. У гэтай вёсцы, акрамя іх, жылі яшчэ дзве хрысціянскія сям'і, астатнія ж жыхары былі мусульманамі (вёска налічвала каля 1500 чалавек).

У той дзень было вельмі спякотна і хрысціянка напілася вады са студні, якая належала мусульманам. Жанчыны абурыліся, і ўзнялася спрэчка. У пэўны момант Азія ўсклікнула: "Езус Хрыстус памёр за грахі свету і за мае грахі. Магамет жа для вас гэтага не зрабіў!" Яе адразу абвінавацілі ў блюзнерстве супраць Прарока, жорстка збілі. І чакаў бы яе самасуд, каб хрысціяне з вёскі не выклікалі паліцыю.

Жанчыну арыштавалі і пасля 16 месяцаў турмы, 7 лістапада 2010 г., прысудзілі да пакарання смерцю. Адразу пасля вынясення прысуду суддзя прыйшоў да яе ў камеру і прапанаваў перайсці ў іслам, пры гэтым абяцаючы, што адменіць прысуд. Азія адмовілася, кажучы, што хоча памерці хрысціянкай. "Мяне абвінавацілі ў тым, што я веру ў Хрыста. Я веру ў Бога і Яго любоў. Калі Вы асудзілі мяне на смерць за тое, што я люблю Бога, то я з гонарам аддам за Яго сваё жыццё", – адказала яна.

"Калі Вы асудзілі мяне на смерць за тое, што я люблю Бога, то я з гонарам аддам за Яго сваё жыццё", – адказала Азія.

Колькі каштавалі ёй гэтыя словы, ведае толькі Бог. Азія знаходзіцца ў вузкай маленькай камеры без акон і вентыляцыі, шмат моліцца і марыць убачыць усмешкі на тварах сваіх дзяцей. Малодшым з іх цяжка было зразумець, куды так раптоўна знікла іх мама і чаму не вяртаецца. "Дарагія мае дзеці... Нашым з татам самым вялікім прагненнем было быць шчаслівымі і зрабіць шчаслівымі вас, хоць жыццё не заўсёды было лёгкім. Мы – бедныя хрысціяне, але наша сям'я як святло. Я б так хацела быць з вамі, пакуль вы падрастаеце, выхоўваць вас сумленными людзьмі... Веру, што вы такімі будзеце! Я не ведаю, калі мяне павесяць, але застаньцеся ў спакоі, мае родныя. Пайду на смерць з паднятай галавой і без страху, бо са мною будуць Езус і Яго Маці, якія мяне не пакінуць" (фрагмент ліста з турмы).

Яе сям'я ды і яна сама, нават у турме, знаходзяцца ў небяспецы. У абарону Азіі Бібі сталі Апостальская Сталіца і шмат міжнародных рэлігійных і свецкіх арганізацый. А арганізацыя "Голас Пераследаваных Хрысціян" хоча сабраць мільён подпісаў, каб паўплываць на памілаванне Азіі і каб яна як найхутчэй магла вярнуцца да сваёй сям'і. Можна далучыць і свой голас на сайце http://www.callformercy.com/ (сайт на англійскай мове).

І на заканчэнне хачацца дадаць, што так шмат гавораць пра інквізіцыю і пра іншыя "пікантныя тэмы" з жыцця Касцёла, а так мала – пра нашых братоў і сясцёр у веры, якія кожны дзень (бо кожныя пяць хвілін гіне хрысціянін) сутыкаюцца з несправядлівасцю і пераследам, часта пакінутыя сам-насам са сваёй бядой. Іх віна толькі ў тым, што яны вераць у Хрыста і мужна сведчаць аб сваёй веры. Ну а мы, са свайго боку, павінны памятаць пра іх, падтрымліваць сваімі малітвамі, каб хапіла ім сілы быць адважнымі, мужнымі і вернымі Хрысту. "Каштоўная ў вачах Пана смерць Яго святых" (Пс. 116 ,15).

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага благаслаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вераніка Гінько** (г. Глыбокае), **Ганна Карніловіч** (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Ядвіга Пупкевіч** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Баляслава Барэйка** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Ядвіга Шакола** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Станіслава Мяховіч** (в. Дзеркаўшчына, Глыбоцкі р-н), **Чэслава Кіжло** (в. Шуневічы, Глыбоцкі р-н), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Ян і Міхаіл Сапель** (в. Красносельцы, Браслаўскі р-н), **М. В. Матус** (г. Валожын, Мінская вобл.), **Вікторыя Свідэрская**, (в. Каўшалёва, Шаркаўшчынскі р-н), **Лія Мацюшонак** (в. Прошкава, Глыбоцкі р-н), **Алена Кушаль** (в. Асінаўшчына, Докшыцкі р-н), **Марыя Кісель** (г. Глыбокае), **Лілія Левачкіна** (г.п. Варапаева, Пастаўскі р-н), **Гэнавэфа Дубіловіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **парафіяне з Глыбокага**, **Кацярына Юдыцкая** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Сцепаніда Лупач**, (в. Завараты, Глыбоцкі р-н), **Аліцыя** (г. Паставы), **Яна Парфяновіч** (г. Браслаў), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Ірына Курыловіч** (г. Мёры), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Ядвіга Тарун** (агр. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н), **Алена Аляхновіч** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Галіна Глушкевіч** (в. Віржы, Докшыцкі р-н), **Галіна і Генадзь Шаблоўскія** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Яніна Грыбок** (г. Мінск), **Рэгіна Ракуцкая** (г. Браслаў), **Ядвіга Кісель** (г. Вілейка, Мінская вобл.), **Тэрэза Парфяновіч** (г. Браслаў), **Марыя і Уладзімір Тупека** (в. Дзеркаўшчына, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас благаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Прэмія ад Прэзідэнта

**Рашэннем Прэзідэнта Беларусі па выніках 2012 года прысуджаны пяць прэмій «За духоўнае адраджэнне». Сёлета за актыўную дзейнасць у гуманітарнай сферы ўганараваны і дырэктар каталіцкай рэлігійнай місіі «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Віталь Кульпекша.**




Упершыню сярод каталіцкіх дзеячаў такую прэмію ў 2005 г. атрымаў кс. Юзаф Булька. У 2006 г. лаўрэатам прэміі за актыўную дзейнасць у гуманітарнай сферы, накіраваную на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый, якія спрыяюць умацаванню духоўных каштоўнасцяў, ідэй сяброўства і братэрства паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, стаў біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. Тады ж узнагароду атрымаў і беларускі дакументаліст, аператар і рэжысёр Юрый Гарулёў.

*catholic.by*

Далёкія



# Каляды ў Далёкіх

**"Ушануем Хрыста паклонамі нізкімі, няхай далёкія стануць блізкімі". Пад такім заклікам у парафіі Святога Станіслава (аграмястэчка Далёкія Браслаўскага раёна) ішла падрыхтоўка да Каляд.**

**Ірына Высоцкая**, *тэкст і фота*



На свята Божага Нараджэння ў касцёле дарослыя разам з дзецьмі паказалі ўсім, хто прыйшоў вечарам на Святую Імшу, тэатралізаваную пастаноўку "Найпрыгажэйшая мелодыя".

Інсцэніроўка фрагмента Евангелля паводле Святога Лукі пра нараджэнне Езуса ў Бэтлееме дапамагла ўсім на некалькі хвілін перанесціся ў той час. Ад удзельнікаў пастаноўкі прагучалі словы, якія прымусілі задумацца многіх над тым, што "наша жыццё – гэта нотны сшытак, у якім мы запісваем ноткі добрых учынкаў, а таксама, на жаль, і дрэнных... Добрыя ўчынкі – гэта добрыя ноткі, а фальшывыя ноты – гэта нашы грахі. Кожны з нас мае магчымасць напісаць самую прыгожую мелодыю жыцця. Трэба нам імкнуцца, каб у нашым нотным сшытку было як найменш фальшывых нотак..."

На пачатку Святой Імшы ўсе дзяліліся аплаткамі з пажаданнямі і прабачэннямі за дрэнныя ўчынкі. Сказаць нешта крыўднае, не заўважыць чалавека – гэта нескладана, а вось папрасіць прабачэння – цяжка. Аднак такую магчымасць многія выкарысталі менавіта ў гэты вечар.

Пасля Святой Імшы вернікі выправіліся да Бэтлеемскай шопкі, якая з'явілася побач з касцёлам, каб уклянчыць каля стаенкі, як некалі пастушкі.

# Юбілей у Ахрэмаўцах

**Марыя Лашкова**



Свята Божага Нараджэння 25 снежня для жыхароў нашай краіны – адно з самых шаноўных і важных у шэрагу касцельных святаў хрысціяніна. Натуральна, вернікі яго і чакаюць з асаблівым нецярпеннем, рыхтуюцца прадумана і старанна. А калі да гэтага дадаецца яшчэ і дзясятая гадавіна з дня адкрыцця касцёла, значэнне свята павялічваецца ў шмат разоў. Нашай парафіі якраз у гэтым пашанцавала. Касцёлу Узвышэння Святога Крыжа ў Ахрэмаўцах – 10 гадоў.

Прыгадаем крыху гісторыю. У 1768 г. кашталян інфлянцкі Юзаф Гільзен, уладальнік маёнтка Бяльмонты, фундаваў узвядзенне касцёла Езуса Хрыста. Касцёл быў прыбудаваны да правага крыла двухпавярховага палаца. У 30-ых гг. XIX ст. палац і касцёл моцна пацярпелі ад пажару. Пасля гэтага храм аднавілі, але, на жаль, ён не захаваўся і вядомы толькі па малюнках мастака Н. Орды і фотаздымках. Касцёл узводзіўся як адзін з бакавых рызалітаў. Уваход знаходзіўся на ўзроўні другога паверха палаца, да яго вяла шырокая лесвіца, па баках аформленая мурованай з бутавага каменю.

Будынак храма спалучаў рысы архітэктуры рэнесансу і класіцызму. Касцёл быў зачынены ў канцы 40-ых гг. XX ст. і неўзабаве разабраны.

У 2001 годзе ў парку Бяльмонты пачалі будаўніцтва касцёла. Біскуп Уладзіслаў Блін асвяціў падмурак гэтага будынка.

25 снежня 2002 г. першую святую імшу адправіў ксёндз Дар'юш Кубіца. Касцёл атрымаў назву Узвышэння Святога Крыжа. Свята адзначаецца 14 верасня.

І вось прайшло 10 гадоў. Да ўрачыстасці рыхтаваліся ўсе: ксёндз Ігнат, касцельны камітэт, хор, моладзь, ЦНК, музычная і агульнаадукацыйная школы і ўсе, хто жыве з Богам у сэрцы. Святочна зіхацінь рознымі колерамі касцёл, урачыста спявае хор, госці віншуюць парафіян...

Слова бярэ біскуп Уладзіслаў Блін. Ён гаворыць, што ў Ахрэмаўцах жывуць добрыя людзі, якія маюць моцную веру, надзею, любоў. Пастыр дыяцэзіі ўспамінае, што быў час, калі касцёла не было, але людзі насілі Езуса ў сваіх сэрцах, маліліся спачатку ў клубе торфабрыкетнага завода, потым адрамантавалі капліцу на могілках і маліліся ў ёй.

"І вось цяпер я рады і шчаслівы, што мы збіраемся тут 10 год. Тут, дзе Хрыстус нараджаецца кожны дзень. Я хачу сказаць дзякуй, што вы ёсць у Ахрэмаўцах. Вас паважае кіраўніцтва раёна і мясцовая ўлада. Яны таксама віншуюць вас са святам", – сказаў біскуп Уладзіслаў". Завяршыў сваю прамову біскуп такімі словамі: "Хто верыць, хто моліцца, той можа рабіць толькі добрыя ўчынкі. Дзякуй хору, які так слаўна спявае, дзякуй міністрантам, якія спраўна дапамагаюць ксяндзу, дзякуй усім парафіянам".

Пасля Святой імшы ўсе ахвотныя і госці прыйшлі ў Ахрэмаўскую сярэднюю школу. Свята прадоўжылася. "Там, дзе зззяе Бэтлеемская зорка" – так называўся спектакль, які падрыхтавала Ларыса Антонаўна Лаўрыновіч разам з рабочымі, настаўнікамі, вучнямі, супрацоўнікамі Цэнтра нацыянальнай культуры.

Прыгожа гучалі калядныя песні, якія спявалі дзеці і моладзь (кіраўнік – І.Э. Сапун). Радасна і ўзнёсла славілі нараджэнне Езуса дзяўчаты з "Пралескі". Пранікнёна гучала ў выкананні Сашы Пеступ (кіраўнік – В.П. Сіротка) у песні "У тую ноч" хвала Богу. Танец са свечкамі таксама не пакінуў абыякавымі гасцей. На заканчэнне канцэрта выступаў народны гурт беларускай песні "Сябрына" (кіраўнік – В.П. Сіротка). Разам з артыстамі спявалі і госці, і парафіяне. А потым слова ўзяў біскуп, які ад душы падзякаваў усім, хто падрыхтаваў свята.

Цудоўны настрой нясе Божае Нараджэнне: чаканне вячэры, пажаданні, ёлка, батлейка, Пастэрка, калядкі і снег. Але варта памятаць, што, седзячы за багата накрытым сталом ці адкрываючы падарункі, нельга выпусціць з-пад увагі самае галоўнае – дар, які прыносіць гэтая асаблівая ноч, – Езуса.

Im memoriam

# Добры пастыр

**Тры гады таму ў адной з мінскіх бальніц адышоў у вечнасць ксёндз Пралат Юозас Булька, які на працягу многіх гадоў нёс сваё служэнне ў Мосарскай парафіі Віцебскай дыяцэзіі.**

**кс. Аляксей Юркайць**

Ксёндз Юозас Булька спачатку аднавіў касцёл і разам з вернікамі зрабіў адмысловы парк перад святыняй, навёў парадак на могілках і адбудаваў 14 стацый Крыжовага шляху – Мосарскую Кальварыю. Апроч гэтага, ён пабудаваў касцёл у Варапаеве, больш за 100 прыдарожных фігурак і крыжоў, шмат гротаў Маці Божай. Дзякуючы яму Мосар сталі называць "Беларускай Венецыяй".

На жаль, ксёндз Юозас Булька, які на працягу многіх гадоў нёс сваё служэнне ў Мосарскай парафіі, адышоў у вечнасць 9 студзеня 2010 года. Ён прапагандаваў здаровы лад жыцця, шмат зрабіў у справе барацьбы з алкагалізмам. Так, у Мосары прадстаўнікамі клубаў ананімных алкаголікаў з Беларусі, Латвіі і Літвы была створана Алея цвярозасці. Шмат намаганняў прыкладаў ксёндз і па добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол касцёла.

У 2005 годзе Юозас Булька стаў першым каталіцкім святаром, які быў узнагароджаны прэміяй "За духоўнае адраджэнне". У 2006 годзе ўказам прэзідэнта ксёндз Булька ўзнагароджаны медалём Францішка Скарыны за ўмацаванне духоўных каштоўнасцяў і прапаганду здаровага ладу жыцця.

Вось і ў гэтым годзе мы молімся за памерлага ксяндза Пралата. Маліцца за яго будзем заўсёды... Памяць пра яго жыве ў нашых сэрцах і малітвах. Вялікую спадчыну пакінуў нам гэты чалавек высакароднага сэрца, таму вернікі заўсёды з удзячнасцю, светлай памяццю і малітвай ушаноўваюць свайго душпастыра – ксяндза Пралата.



У сераду, 9 студзеня, а 13-й гадзіне адбылася Ютрань за спачылага, якую вельмі любіў спяваць Пралат, і Святая Літургія, падчас каторай ксёндз Алег Мурзіч узгадаў пра важнасць малітвы за памерлых, асабліва душпастыраў, і ўспомніў постаць ксяндза Юозаса. Не хопіць, канешне, нашых словаў, каб згадаць усе павучэнні, справы і саму асобу святара...

Ксяндза Юозаса шмат хто памятае як добрага, чулага і адданага душпастыра. Малітоўная лучнасць у дзень спачыну дазваляе нам трываць у духоўнай сувязі з ім. Маем надзею і веру, што сустрэнемся потым з ім у Нябеснай Айчыне.

Вечны адпачынак дай яму, Пане...

*Ксёндз Юозас Булька нарадзіўся 27 снежня 1925 года ў Новасвянцянскім (Швянчоняляйскім) раёне ў в. Рыпайчай у сям'і селяніна. Пасля вайны, да 1952 года, працаваў у прыватным сямейным маёнтку. Закончыў 6 класаў Кірдзейскай пачатковай школы. Потым пераехаў у Вільню, дзе працягнуў навучанне ў вячэрняй школе і працаваў.*

*У 1958 годзе скончыў Віленскую сярэднюю школу працоўнай моладзі №8. З 1960-га па 1980-ы год працаваў на віленскай фабрыцы электрычных лічыльнікаў.*

*Пасля таго, як ён пайшоў на пенсію, у канцы 1980-х гадоў, пачаў працаваць пры касцёле Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Вільні кветкаводам і завочна вучыцца ў духоўнай семінарыі. Прыняў святарскае пасвячэнне з рук ксяндза біскупа Рамана Анджэеўскага ў Влацлаўку 5 лістапада 1987 года.*

*Спачатку кс. Юозас дапамагаў у парафіі Майцягальскага касцёла Віленскага раёна. Потым ён прыбыў у Беларусь і распачаў працу ў парафіі святой Ганны ў в. Мосар.*

Добрая Вестка ў тваім доме!
Каталіцкі ВЕСНІК
№1(22)
студзень 2013 г.

# ШМАТДЗЕТНАЯ СЯМ'Я



**Адной з тэмаў, якая турбуе грамадства Беларусі, з'яўляецца паляпшэнне дэмаграфічнай сітуацыі. Улады імкнуцца зацікавіць сем'і нараджаць як мага больш дзяцей. Даюцца льготныя крэдыты на жыллё, матэрыяльная дапамога, праводзяцца мерапрыемствы, накіраваныя на паляпшэнне здароўя. А як жывецца шматдзетным сем'ям, якія цяжкасці і моманты радасці яны перажываюць? Пра гэта мы спыталі ў Ірыны Бярдоўскай, маці траіх дзяцей.**

**– Якія, на ваш погляд, моцныя і слабыя бакі шматдзетных сем'яў?**

– Моцных бакоў, безумоўна, больш чым слабых. Слабыя бакі я нават цяпер і не назаву. Узаемадапамога… Ты заўсёды адчуваеш апору ў сям'і, заўсёды весела, ёсць больш упэўненасці ў будучым. Для дзяцей хочацца, каб у іх былі браты і сёстры, блізкія па ўзросце. А бацькі – гэта штосьці іншае, не вечнае. Менш зацыкліваешся на праблемах і дробязях. Няма часу думаць аб чымсьці дрэнным і накручваць сябе. Шматдзетная маці займаецца бесперапынным самаўдасканальваннем.

**– Ці плануеце вы яшчэ дзяцей?**

– Наш страх і няўпэўненасць перашкаджаюць штосьці планаваць дакладна. Але калі будзе цяжарнасць, будзе і дзіця. Тым больш хіба можна забіць жыццё, якое ўжо зарадзілася? Пакуль не плануем. Калі я была цяжарнай, то адчувала ўпэўненасць у тым, што гэта новае жыццё. Любыя каментары мяне ўжо не здолелі б пераканаць. Гэта не так страшна, як здаецца. Нараджаецца дзіця, і ты яго любіш і думаеш: якое глупства, што ты меў сумневы і баяўся яго з'яўлення. Пасля нараджэння ўсе страхі прападаюць.

**– У вас не проста трое дзяцей. Старэйшая дзяўчынка асаблівая. Калі вы даведаліся пра гэта?**

– Гэта было вельмі складана. Мы выпадкова даведаліся, што ў Рэнаты сіндром Даўна, калі ёй быў год. Усе, нават урачы, былі моцна здзіўленыя. Адразу былі проста падазрэнні, потым зрабілі генетычны аналіз. У нас быў жудасны стрэс, мы доўга не верылі дыягназу. Знешне ён слаба праяўляўся. Кожны раз задавалі сабе пытанне: "Чаму са мной?" Самай вялікай праблемай было тое, як гэта ўспрыме грамадства. Але чым больш часу праходзіць, тым больш спакойна я да гэтага стаўлюся, таму што наша дачка самая лепшая! Яна ходзіць, размаўляе, нядаўна пайшла ў спецыялізаваную школу. Усе яе хваляць. Часам бываюць складаныя сітуацыі, але яны вырашальныя.

**– Вам хтосьці дапамагае?**

– Так. Летам я з дзецьмі еду да бацькоў у вёску. У Віцебску нам дапамагае адна жанчына – Ірына Мікалаеўна. Яна заўсёды нас падтрымлівае, дае розныя карысныя парады. Мы пазнаёміліся, калі я прыехала паступаць. Тады некаторы час жыла ў іх. Божая дапамога адчуваецца паўсюль і заўсёды. Госпад дае цярпенне і сілы. Дзеці ніколі не былі падставай для таго, каб "прагуляць" нядзельную службу. Заўсёды не хапае часу на ўсе справы. Але мы лічым, што неабходна чэрпаць сілы ад крыніцы – Хрыста.

**– Аб чым вы марыце сёння?**

– Пакуль мае мары звязаныя з дзецьмі. Хацелася б больш вольнага часу, каб рэалізаваць творчыя ідэі. Мару больш часу праводзіць з мужам, разам схадзіць у тэатр, кіно.

*Гутарыла Анастасія Кавалеўская*

# Цуд на Каляды

**25 снежня – не звычайны дзень, а сапраўдны цуд. Цуд, якога чакаюць усе: ад самага маленькага да найстарэйшага.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;*
**кс. Віктар Місевіч**, *фота*

Божае Нараджэнне – чароўнае свята, бо менавіта тады ў сэрцы кожнага чалавека нараджаецца маленькая ЛЮБОЎ, якая жадае напоўніць сэрца кожнага сваёй міласэрнай цеплынёй, бязмежнай радасцю і вялікім супакоем.

І каб гэты дзень стаў сапраўды незвычайным, дзеці і моладзь парафіі Святой Тройцы ў г. Глыбокае падрыхтавалі святочны канцэрт для святароў, сясцёр і парафіян, якія ладзіўся ў раённым Доме культуры. Вольных месцаў не было. Для ўсіх адным з першых падарункаў стала… прысутнасць сярод глыбачан біскупа Уладзіслава Бліна, які завітаў на свята.

Вядоўцы напачатку прывіталі ўсіх гледачоў і павіншавалі са святам. Маленькія вернікі пад кіраўніцтвам с. Анны Тарасёнак прадставілі батлейку, інсцэніроўку пра Божае Нараджэнне. Самаму малодшаму ўдзельніку было толькі 3 гады. Другая частка святочнай праграмы складалася з вершаў, спеваў моладзевага гурта пад кіраўніцтвам с. Таццяны Данч і розных забаўляльных гульняў, якія праводзілі валанцёры парафіяльнага "Карытас", апранутыя ў касцюмы казачных персанажаў.

Ну і, нарэшце, якое ж свята без салодкіх падарункаў? "Святы Мікалай! Святы Мікалай!" – гучалі дзіцячыя галасы з розных куткоў глядзельнай залы. Дзверы адчыніліся, і ў акружэнні анёлаў з'явіўся… Святы Мікалай. Ужо ў другі раз на працягу года ён завітаў да глыбачан і, канешне, не з пустымі рукамі. Салодкія падарункі, падрыхтаваныя валанцёрамі пры падтрымцы парафіяльнага "Карытас", атрымалі прысутныя біскуп Уладзіслаў Блін, дырэктар "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Віталь Кульпекша, намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Галіна Унуковіч, начальнік аддзела культуры Таццяна Малатоўнік, пробашч Глыбоцкай парафіі Мечыслаў Янчышын, настаяцельніца кляштара сясцёр-францішканак Сям'і Марыі с. Тэрэса Папко і ўсе дзеці і моладзь.

Святочным спевам "Радасць" завяршыўся "глыбоцкі цуд" на Каляды.



# Сустрэча ў інтэрнаце

**Ірына Грэйць**, *тэкст;* **кс. Віктар Місевіч**, *фота*

Убігомльскі інтэрнат да дзяцей-сірот 6 снежня прыехала моладзь з Параф'янава са сваім святаром Раманам Мурзічам і сястрой Аляксандрай Рыбалтоўскай. Кс. Віктар Місевіч, які ўжо не першы раз праводзіць акцыю ў інтэрнаце, павіншаваў выхаванцаў з навагоднімі і калядным святамі, пажадаў ім добрай вучобы, здароўя і ўсмешак. Госці падзяліліся з хлопчыкамі і дзяўчатамі аплаткам.

Моладзь падрыхтавала для дзяцей прадстаўленне аб нараджэнні Хрыста. Пасля чаго сястра Аляксандра задавала гледачам пытанні паводле сцэнарыю сцэнкі. Дзеткі актыўна адказвалі на іх, такім чынам паказваючы свае веданне пра тое, дзе і як нарадзіўся Збаўца.

Разам з параф'янаўскімі валанцёрамі дзеці з інтэрната актыўна ўдзельнічалі ў вясёлых конкурсах: танцавалі, адгадвалі загадкі, паказвалі, наколькі ўважлівыя.

Сустрэча завяршылася супольнай малітвай і падарункамі для дзяцей, якія падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч.



# КАЛЯДА

**Каб пашырыць веру ў сем'ях ці аказаць неабходную духоўную дапамогу, святар ходзіць па калядзе. Гэты візіт часта прыпадае на час Божага Нараджэння і Новага года. "Каталіцкі Веснік" пацікавіўся меркаваннем вернікаў аб душпастырскім наведванні.**

*Ірына Грэйць*

**Юрый Ючкавіч:**
– Каляды – цудоўнае свята Божага Нараджэння. Найбольш прыемныя ўспаміны звязаны з падрыхтоўкай да гэтага свята і да каляды. Мы заўсёды вельмі чакаем, калі святар прыйдзе да нас дамоў. З самага ранку старанна прыбіраем дома. Я вельмі ўдзячны ксяндзам за тое, што яны прыносяць у нашыя дамы Бога.

**Людміла Бурлевіч:**
– Каляда для мяне амаль заўсёды была спатканнем з чалавекам, якога я ведаю. Святар для мяне быў заўжды кімсьці блізкім, а часам нават сябрам. Але аднойчы каляда была зусім незвычайная. Мы святкавалі Новы год у кватэры, дзе я жыла. Сярод гасцей быў таксама святар. Перад святкаваннем пры стале ў нас была Святая Імша. Гэта так цікава – Імша пры стале, дзе звычайна мы збіраемся, каб есці. Я была "закрыстыянінам". Паклала абрус, зрабіла падпорку для Імшала, паставіла свечкі. Святар прынёс усё патрэбнае. І мы маліліся разам у коле сяброў. Потым святар прачытаў малітву і асвяціў дом. Вось такі візіт святара я перажыла некалькі год таму.

**Ангеліна Пятровіч:**
– Кожны год мы з бацькамі старанна рыхтуемся да прыходу святара, хвалюемся. Асабліва запомніўся гэты год каляды. Да нас прыходзіў наш вікарый кс. Віктар Захарэўскі. Святар быў вельмі ветлівы, усміхаўся. Мы размаўлялі з ім так, як размаўляюць людзі, што ведаюць адно аднаго шмат гадоў! Акрамя размовы і асвячэння нашага дома, ксёндз расказаў нам прыпавесць з Бібліі. Гэту асабліва шчырую каляду мая сям'я будзе памятаць доўга.

**Ядвіга Курцэвіч:**
– Заўсёды каляда не вельмі адрознівaецца год ад году, але яна заўжды была доўгачаканай і праходзіла ў добразычлівай форме. Асабліва калі пробашчам нашай парафіі стаў кс. Віталій Галец. Ён чалавек з выдатным пачуццём гумару і вельмі «прыцягвае» да сябе. Гэта істотна спрошчвае стасункі. Таксама я памятаю, як аднойчы да нас прыйшоў кс. Генрых. Ён прывёў разам з сабой пяць міністрантаў. Гэта было даволі дзіўна для мяне, паколькі раней да нас прыходзіў толькі сам святар.

**Ганна Блажэвіч:**
– Ад самага дзяцінства для мяне каляда была значнай падзеяй. Памятаю, калі я была маленькай разам з бабуляй старанна рыхтавалася і заўсёды адчувала лёгкае хваляванне перад тым, як прыйдзе ксёндз. Калі прыходзіў святар, я выконвала важную функцыю: спявала каляду, калі ён уваходзіў у дом. Цяпер я калядкі не спяваю, але лёгкае хваляванне адчуваю заўсёды, бо прыход святара для мяне – гэта знак таго, што народжаны Хрыстус хоча прабываць у маім доме і маёй сям'і.

## Збаўца ўжо з намі

*Збаўца наш прыйшоў у свет,*
*Уся зямля зазяла!*
*Хрысціянская сям'я*
*Езуса чакала!*

*Вось і стала ўсім лягчэй,*
*Бо Ён разам з намі.*
*Любіць Езус усёй душой*
*Свой народ абраны.*

*Езус наш – цудоўны скарб,*
*Што з нябёс пасланы.*
*Будзем мы Яго віταць*
*Шчырымі славамі.*

*Кожны хай нясе свой дар,*
*Хто як толькі можа.*
*Хоць маленькі будзе дар*
*Для Яго прыгожы.*

*Ён чакае нашых душ,*
*З кожным размаўляе.*
*Вы прыходзьце да Яго –*
*Хрыстус запрашае!*

*Ларыса Івашына,*
*Дзяржынск*



# Фестываль "Зорка Бэтлеему"

**Свята Божага Нараджэння – гэта час, калі мы дорым адно аднаму радасць, любоў і ўсмешку. Менавіта такая асмасфера запанавала ў Мёрах падчас чарговага, дванаццатага фестывалю каляднай песні "Зорка Бэтлеему".**

**■ с. Марына Брылёнак**, *тэкст;*
**кс. Віктар Місевіч**, *фота*



Арганізатарам гэтага штогадовага конкурсу з'яўляецца кс. Кшыштаф Мянкіна, пробашч парафіі ў Мёрах. Як заўсёды, ад самай раніцы пачалі прыбываць маладыя таленты з кожнага куточка нашай Віцебскай дыяцэзіі, каб праслявіць сваім спевам Маленькага Хрыста і падзяліцца з прысутнымі гледачамі той калcar калядная радасцю, якая пануе ў сэрцы кожнага ўдзельніка. У гэтым годзе маладыя вернікі прыехалі з Дзеркаўшчыны, Удзела, Мосара, Паставаў, Варапаева, Браслава, Шаркаўшчыны і, канешне, з Мёраў.

Сваімі спевамі і танцамі як дзеці, так і моладзь імкнуліся несці ўсім прысутным радасную вестку аб Нараджэнні Збаўцы. Падчас фестывалю прагучала шмат спеваў, але кожны быў адметны па-свойму.

Важным госцем "Зоркі Бэтлеему" быў сам біскуп Уладзіслаў Блін, Віцебскі ардынарый. Скіроўваючы словы прывітання да ўдзельнікаў, ён сказаў: "Я з вялікай радасцю штогод чакаю гэтага фестывалю і вельмі ўдзячны ўсім удзельнікам і тым, хто прыехаў у Мёры!" Сярод прысутных гасцей быў таксама і кс. Аляксандр Рагіня, сакратар Апостальскай Нунцыятуры ў Казахстане.

Фестываль прыносіць шмат радасці як удзельнікам, так і слухачам гэтых цудоўных спеваў і танцаў. Вядоўцы адзначылі, што за дванаццаць гадоў існавання фестывалю было праспявана больш за 200 песень, большасць з якіх аўтарскія.

Пасля абеду адбыўся канцэрт беларускага спевака Алеся Камоцкага. Ён таксама з'яўляецца аўтарам сваіх песняў. З вялікім задавальненнем усе слухалі выканаўцу і яго цікавыя і прыгожыя песні.

І вядома, самай эмацыйнай часткай праграмы было ўручэнне дыпломаў і аб'яўленне вынікаў. Журы ацэньвала ўдзельнікаў у некалькіх намінацыях.

Найлепшымі гуртамі сталі: 1-ае месца – Шаркаўшчына, 2-ое – Дзеркаўшчына, 3-яе – Мёры. Былі таксама адзначаны два дуэты з Паставаў і Удзела. У намінацыі "Сола" журы размеркавала месцы наступным чынам: 1-ае – Браслаў, 2-ое – Дзеркаўшчына, 3-яе – Варапаева. Таксама было адзначана трыа з Мёраў у намінацыі «Інструментальнае выкананне». Кожная група ўдзельнікаў атрымала падарунак, фундатарамі якіх выступілі мёрская парафія, біскуп Уладзіслаў Блін, кс. Павел Самсонаў і кс. Вячаслаў Барок.

На заканчэнне кс. Кшыштаф Мянкіна звярнуўся са словамі ўдзячнасці да ўсіх удзельнікаў за стварэнне такой святочнай атмасферы.

Як вядома, час ляціць хутка, таму спадзяёмся, што і ў наступным годзе зноў Мёры збяруць моладзь і дзяцей, каб радаваць нас сваімі талентамі і праслаўляць Нараджэнне Хрыста.

# З думкамі аб Taizé



**Днямі беларуская хрысціянская моладзь вярнулася з еўрапейскай сустрэчы моладзі Taizé, што праходзіла з 28 снежня па 2 студзеня ў Рыме.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст;* **Уладзіслаў Лось**, *фота*

Аб пачатку падарожжа ў Чэнстахове разам з Piligrymka.by мы ўжо пісалі на партале. Першым прыпынкам пасля Чэнстаховы стала Вена. Амаль цэлы дзень мы мелі магчымасць гуляць па гэтым прыгожым горадзе. Вена – самы буйны па колькасці насельніцтва горад у Аўстрыі, таму мы змаглі бліжэй пазнаёміцца з яго жыхарамі. Раней здавалася, што яны чымсьці падобныя да немцаў. Акрамя аднолькавай нямецкай (аўстрыйскай нямецкай) мовы знайшліся і адрозненні ад жыхароў Германіі. Напрыклад, большасць аўстрыйцаў памяркоўныя і спакойныя, няма такой вялікай колькасці нефармалаў.

Згодна з перапісам 2005 года, 68,5% жыхароў Аўстрыі – каталікі. Таму адным з сімвалаў Вены з'яўляецца сабор Святога Стэфана. Калі ты знаходзішся ў цэнтры старога горада, то яго немагчыма абмінуць, адразу заўважыш яго веліч і захочаш зайсці. Памаліўшыся ў саборы, мы пайшлі ў "Макдональдс". За кожным столікам чутна іншая, ужо не нямецкая мова. Польская і нават родная – беларуская! Зразумела, усе збіраюцца на Taizé.

28 снежня мы прыехалі ў Рым. У хуткім часе ўсе атрымалі далейшыя ўказанні для рассялення. Большасць беларусаў, сярод якіх была і наша група, жылі ў выставачным цэнтры "Fiera Roma". Некаторыя мелі магчымасць трапіць на начлег у італьянскія сем'і. Шмат людзей жыло таксама ў спартыўнай зале.

Хочацца адзначыць адданую працу добраахвотнікаў-валанцёраў. Гэта юнакі і дзяўчаты, якія прыехалі ў Рым раней за астатніх, каб дапамагчы з арганізацыяй.

Кожны ранак пачынаўся з малітвы. У цэнтры, дзе мы жылі, група моладзі з Польшчы малітву пачынала раней чым іншыя. Палякі самі збіраліся і арганізоўвалі супольную малітву і спеў. Адчувалася іх своеасаблівая малітоўная еднасць. Гледзячы на іх, я адчувала гонар за суседнюю краіну.

Пасля малітвы вялікія групы моладзі збіраліся, каб ехаць на абед, які праходзіў каля Circo Massimo – самага вялікага іпадрома ў Старажытным Рыме. Надыходзіў час абеду, і ўся тэрыторыя была запоўнена тысячамі людзей.

Варта ўспомніць таксама агульную малітву, якая праходзіла адначасова ў розных базіліках і вялікіх касцёлах. На малітве можна было пачуць Евангелле на розных мовах, а таксама спеў Taizé.

Кожны дзень пасля абеду група прыезджай моладзі мела магчымасць пазнаёміцца з гістарычным цэнтрам горада, са старажытнымі пабудовамі Рыма, з яго святынямі і музеямі.

29 снежня ўвечары адбылася супольная малітва ў базіліцы Святога Пятра разам з Папам Бэнэдыктам XVI. Шмат беларусаў доўга чакала гэтай сустрэчы. Плошча была перапоўнена. Папа вітаў моладзь і скіраваў да нас свае слова. У момант малітвы разам з Папам тысячы маладых людзей адчувалі неверагодную радасць.

31 снежня выдалася магчымасць паехаць на Міжземнае мора. Некалькі прыпынкаў на цягніку – і ты ўжо там! Было сонечнае надвор'е, і некаторыя нават загаралі. Падарожжа на мора заняло ўсяго некалькі гадзін.

Перад Новым годам у розных парафіях адбылася супольная малітва аб супакоі, пасля якой пачаўся "Фестываль народаў".

1 студзеня, пасля ўдзелу ў набажэнстве, мы выправіліся на новае спатканне. Сустрэўшыся разам, беларусы дзяліліся сваімі ўражаннямі, а таксама разважалі над тым, як працягнуць "пілігрымку даверу", вярнуўшыся дамоў.

2 студзеня моладзь пакінула Рым. Ранкам 3 студзеня мы прыехалі ў Браціславу. Пасля далёкай Італіі ў Славакіі можна было адчуць сябе як дома. Славакі знешне нагадвалі беларусаў, ды і мова была амаль зразумелай. Ветлівы мужчына сустрэў нас ля ўвахода ў гатэль, а надпіс на дзвярах па-беларуску сведчыў пра тое, што жыхары гэтай краіны ведаюць "нашых".

Яшчэ доўга мы будзем ўспамінаць гэтае хрысціянскае падарожжа і тыя моманты, якія найбольш уразілі і запомніліся.

# Я і касцёл: культура паводзін

**З самага дзяцінства бацькі, выхавальнікі і настаўнікі стараюцца нам прывіць культуру. Кожны з нас ведае, як паводзіць сябе за сталом, у тэатры, у грамадскім транспарце. Гэтыя навыкі робяць нас інтэлігентнымі людзьмі. Але ці кожны з нас ведае, як паводзіць сябе ў храме? Што можа быць больш простым, скажаце вы, але, насамрэч, не ўсё так адназначна.**

**Марта Мацкевіч**

### Сівізна – паказчык мудрасці?

Аднойчы была сведкай цікавай сітуацыі ў адным з мінскіх касцёлаў. Святар выйшаў спавядаць, людзі адразу ж навыперадкі кінуліся да канфесіяналу. Пазней падбегла яшчэ адна жанчына, аднак яна не пайшла ў канец чаргі, а стала ўперадзе ды, акрамя таго, яшчэ і сяброўак сваіх паклікала. Людзі, якія стаялі раней, выказалі сваё абурэнне. Яна ж на ўвесь касцёл пачала спрачацца і адстойваць сваю пазіцыю. Непрыемнае ўражанне склалася. Такое адчуванне, што чарга не ля канфесіяналу, а ў краме па каўбасу, якая вось-вось закончыцца…

Дарослая жанчына, што ўжо мае сваіх дзяцей і ўнукаў, паводзіць сябе так… Для мяне заўсёды людзі старэйшага ўзросту ўяўляліся эталонам мудрасці, яны доўга жывуць, шмат бачылі і могуць даць нам добры прыклад. Але… Незаўсёды сівізна ў валасах з'яўляецца паказчыкам мудрасці.

Год таму была на практыцы ў школе. У адным з класаў вучыцца дзяўчынка-інвалід. Неяк прысутнічала на ўроку літаратуры ў гэтым класе. Практыкантка выклікала яе адказваць верш з агаворкай, што яна можа зрабіць гэта з месца. Аднак дзяўчынка рашуча адмовілася: "Мне не трэба палёгкі, я не буду адлыньваць! Я як усе!" Яна ўстала і пайшла да дошкі адказваць. Гэтыя словы адзінаццацігадовай дзяўчынкі надоўга ўрэзаліся ў маю памяць, і часам у складанай сітуацыі я ўзгадваю тую маленькую, але моцную духоўна дзяўчынку.

Выснова напрошваецца адна: узрост не паказчык інтэлекту, культуры, мудрасці. Гэта проста лічба.

Яшчэ адной праблемай з'яўляецца стыль адзення каталіка. Як мы прыходзім у храм, таксама гаворыць пра ўзровень нашай культуры.

### Як апранацца ў касцёл?

Як апранацца, ідучы ў касцёл? Многія маладыя дзяўчаты ды і хлопцы задаюцца гэтым пытаннем. Калі дзяўчына ідзе на спатканне з хлопцам, то часцей за ўсё бярэ пад увагу густ хлопца, яго стаўленне да моды. Калі аднаму падабаецца дзяўчына ў кароткай спадніцы, то іншы нават не гляне ў бок такой прыгажуні. Прыкладна тым жа прынцыпам кіруюцца маладыя людзі, ідучы на працу. Усім зразумела, што бікіні ну ніяк не падыдзе для паходу на працу. Падобны ж падыход дзейнічае і ў касцёле. Ідучы ў храм, чалавек, у першую чаргу, чакае спаткання з Хрыстом. Не з суседам, не з сяброўкай, ні тым больш са святаром. Часам людзі ідуць у храм паводле прынцыпу "сябе паказаць ды на іншых паглядзець". Маладой дзяўчыне, бывае, хочацца прадэманстраваць сваю новую сукенку, спадніцу, аднак наўрад ці Бога зацікавіць ваша новая спадніцка. Бог чакае нашай малітвы, шчырасці. Касцёл не пляцоўка для дэманстрацыі моды, ні дыскатэка і ні тусоўка.

Ёсць і другі варыянт. Часамі маладыя людзі проста не ведаюць, як апранацца ў храм. Што будзе дарэчна, а што не зусім. Аднойчы давялося сутыкнуцца з сітуацыяй, калі малады чалавек (непрактыкавальны каталік), пацікавіўся, а ці можна прыйсці на хрост у шортах. Хоць хлопцам у гэтай сітуацыі значна прасцей: джынсы, кашуля або футболка заўсёды выратуюць становішча, аднак летняя спёка робіць сваю справу.

### Святарскія заўвагі

Цяпер святары ды і парафіяне рэдка робяць заўвагі наконт адзення маладых вернікаў. Аднак у ранейшыя часы прысутнасць дзяўчыны з глыбокім дэкальтэ або проста з адкрытымі плячамі была недапушчальнай. Калі я была падлеткам, мая бабуля расказвала, што святар уласнаручна, на вачах шматлікіх вернікаў і прыхаджан, вывеў з храма дзяўчыну ў адкрытай сукенцы. Такія радыкальныя меры святара выклікалі вялікую ўвагу да ўласнага вонкавага выгляду. Кожная жанчына перад паходам у храм некалькі разоў глядзелася ў люстэрка і шукала магчымыя "недахопы" ў сваім знешнім выглядзе. На сённяшні дзень пытанне "што апрануць у храм" цалкам ляжыць на нашым сумленні. У дзяўчыны павінна быць сціпласць, але не паказная, якая праяўляецца толькі ў пэўных сітуацыях, але сціпласць у жыцці.

Дык усё ж такі што з'яўляецца аптымальным варыянтам для паходу ў храм? Зразумела, што кофтачка з дэкальтэ, якое заканчваецца недзе каля пупка, або спадніцка, якая больш нагадвае пояс, наўрад ці будзе адпавядаць сітуацыі. А ў астатнім – поўны палёт фантазіі. Стоячы перад люстэркам, трэба задаць сабе пытанне: ці будзе мой выгляд прыемны Богу.

# Урокі рэлігіі, або Што такое Галгофа?

**Якая маці і які бацька не мараць, каб яго дзіця было самым таленавітым, самым разумным, самым выхаваным? Для дасягнення гэтай мэты бацькі гатовыя зрабіць усё, у прыватнасці, запісаць свайго малога ў розныя секцыі ды на факультатывы. Як толькі пальцы іх дачкі дакранаюцца да піяніна, яны ўпэўненыя: расце музыкант. Калі іх сынок запісаўся ў баскетбольную секцыю, вывад адзін – ён будучы спартсмен. Гэта нармальная з'ява для грамадства, бо ўсе бацькі хочуць шчасця сваім дзецям.**

**Марта Мацкевіч**

Аднак часта на выхаванне свайго ўлюбёнца ў бацькоў не хапае часу: праца, хатнія клопаты не даюць засяродзіцца на гэтым. Усё выхаванне зводзіцца да двух пытанняў: "Ці паеў?" і "Што сёння атрымаў?" Усё астатняе пераходзіць у шэраг другарадных клопатаў. Важна, каб дзіця было здаровым, разумным, выхаваным, але, мабыць, найважнейшай мэтай бацькоў з'яўляецца выхаванне ЧАЛАВЕКА ў поўным сэнсе гэтага слова. Гэта самая складаная місія, якая стаіць перад бацькамі. Адным са складнікаў гуманістычнага выхавання якраз і з'яўляецца выхаванне рэлігійнае.

**Усё выхаванне зводзіцца да двух пытанняў: "Ці паеў?" і "Што сёння атрымаў?"**

Месяц таму я выкладала беларускую мову і літаратуру ў 11 класе ў адной з мінскіх школ. На ўроку літаратуры вялі гаворку пра твор Васіля Быкава "Знак бяды". Сустрэлася ў тэксце слова "Галгофа", нехта з вучняў спытаў, што гэта такое. Я заўсёды даю магчымасць астатнім выказацца і таму пераадрасавала пытанне класу. Ніхто з дваццаці чалавек не ведаў адказу. Ніхто не змог узгадаць нават, дзе ўжываецца гэтае слова і з якой яно сферы. Цікава, што ў век тэхналогій, калі любая інфармацыя даступная кожнаму, ніхто не змог адказаць на гэтае пытанне. Чый гэта недагляд? Бацькоў? Школы? Святароў?

Першасную сацыялізацыю чалавек праходзіць у сям'і, таму галоўнай задачай бацькоў з'яўляецца фарміраванне элементарных ведаў з усіх галін навукі, базісных ведаў.

Кожны марыць стаць усебакова развітай асобай, якая можа падтрымаць гаворку ў любой галіне: ад сельскай гаспадаркі да філасофіі, ад палітыкі да рэлігіі. Недагляд сям'і ў такім выпадку, несумненна, ёсць.

Школа павінна фарміраваць асобу. Аднак нельга "ўсіх сабак" вешаць на школу. Яна дае вузкі спектр ведаў па кожным прадмеце, а заняткі па рэлігіі і ўвогуле не прадугледжаны.

Добра памятаю, як сама хадзіла на заняткі па рэлігіі, якія праводзіў наш святар. Магчыма, гэта мае суб'ектыўнае меркаванне, але мне было нецікава. Той матэрыял, які падаваўся на гэтых занятках, я ўжо даўно ведала сама. А слухаць двойчы тую ж інфармацыю не мела ніякага сэнсу. Таму з цягам часу я стала тут усё больш рэдкім госцем. Зараз лічу, што пры фарміраванні груп трэба ўлічваць не ўзрост, а ўзровень ведаў дзяцей. Адзін час у нас былі агульныя заняткі па рэлігіі, і я, будучы ў 3 класе, хадзіла на іх з дзесяцікласнікамі, якія ў мяне яшчэ і спісвалі пры падрыхтоўцы розных прац.

**Добра памятаю, як сама хадзіла на заняткі па рэлігіі, але мне было нецікава**

Парадокс… Наведванне заняткаў я ўзнавіла толькі ў старэйшых класах. І менавіта тады на кожным з іх я пачала адкрываць для сябе нешта новае.

На фарміраванне асобы ўплывае вялікая колькасць людзей: бацькі, дзядулі, бабулі, цёці, выхавальнікі, настаўнікі, святары і інш. Але гэты ўплыў не заўсёды плённы. Каб было інакш, нашае грамадства не ведала б такіх паняццяў, як турма, злачынства і г.д. Акрамя ўкладу Мендэля ў генетыку, Каперніка – у астраномію, Чачота – у фальклярыстыку, трэба ведаць яшчэ і пра Хрыста і яго ўклад у справу збаўлення…



# Что нужно подростку?



***От редакции.*** ***Дорогие друзья! Представляем вам нового автора нашей газеты – психолога Юрия Романюка. Юрий Романюк является школьным психологом и верующим человеком. Для него вера – это не абстрактное понятие, а жизненная необходимость. Хотя психология не может принадлежать к какой бы то ни было конфессии, нам показалось очень важным, чтобы в «знаниях о душе» читателям помогал разобраться именно практикующий католик. Ведь когда сотрудничают Божья благодать и разум человека, все проблемы можно победить.***

Здравствуйте, уважаемые читатели. Сегодняшний разговор с вами хотелось бы посвятить нашим детям. И особенно очень интересному периоду в их жизни, который называется подростковым.

Из психологического словаря: «Подростковый возраст – стадия онтогенетического развития между детством и взрослостью (от 11-12 до 16-17 лет), которая характеризуется качественными изменениями, связанными с половым созреванием и вхождением во взрослую жизнь».

В определённый период своей жизни ребёнок начинает перебирать то, что в своё время ему с собой в дорогу положили взрослые. Это похоже на ситуацию, когда корабль для кругосветного путешествия наполняется всеми возможными вещами, которые попадают под руку. И капитан перед отплытием начинает выбирать то, что нужно, и ненужное выбрасывает за борт. В этот момент ребёнок становится конфликтным, потому что хочет выбросить за борт то, что, на его взгляд, кажется лишним. А мы, взрослые, насильно хотим ему это оставить. Вы со мною согласитесь, что багаж взрослых не всегда нужен нашим детям. В нём есть много хорошего, но также и много не очень полезного.

Это можно увидеть на примере, когда папа заставляет сына быть спортсменом, потому что в силу каких-то жизненных ситуаций сам не смог им быть. И думает приблизительно так: «Я не смог, пускай сынок будет. Может, ему повезет, а я помогу». Вроде бы здесь нет ничего страшного, что может быть плохого в желании добра своему сыну? Мы же хотим только добра! Но если мы поближе рассмотрим такое отношение, то увидим, что родитель просто перекладывает на плечи ребёнка свои нереализованные мечты и желания. А если ребёнок хочет рисовать? Вот здесь и назревает конфликт. И не всегда нам, взрослым, хватает терпения для того, чтобы мечта нашего ребёнка стала целью в его жизни. Чтобы цель созрела, нужно время, спешка не всегда хороший помощник. Как говорят, спешить надо медленно. Но мы же спешим!

**Багаж взрослых не всегда нужен нашим детям**

Хотелось бы также обратить внимание на некоторые новообразования характера, которые проявляются в подростковом возрасте. Давайте первым из них рассмотрим подростковый максимализм. Мир для подростка раскрашивается в два цвета: чёрный и белый, добро и зло, любить и ненавидеть. Любое утверждение для него может быть правильным или неправильным. Каждая идея в глазах подростка может стать абсолютной истиной, которую надо защищать любым способом.

Но, уважаемые родители, не забывайте, что периоду взросления вашего ребёнка сопутствует эмоциональная неустойчивость, которая проявляется резкими колебаниями настроения (от экзальтации до депрессии). Пик её приходится у мальчиков на возраст 11-13 лет, у девочек – 13-15. Наиболее бурные реакции возникают при попытке коголибо из окружающих ущемить самолюбие подростка. Самолюбие, которое напрямую связано с таким новообразованием характера, как чувство взрослости. Что же это за чувство?

Представьте себе: внутри ребёнка просыпаются гормоны, которые меняют его внутреннюю структуру, а внешняя же остается прежней. Подросток учится в той же школе, живёт в той же семье. Отношение к нему не меняется, ведь в семье он «маленький ребёнок», за которым нужен уход: накормить, обстирать, одеть, дать деньги на карманные расходы. А ребёнку приходится за это расплачиваться послушанием, то есть терять свою «свободу». В понимании подростка «свобода» – это атрибут взрослого. А как хочется стать таким взрослым!

Подросток объективно не может включиться во взрослую жизнь, но стремиться к ней и претендует на равные со взрослыми права. Изменить он пока ничего не может, но внешне подражает взрослым. Отсюда и появляются атрибуты «псевдовзрослости»: курение сигарет, употребление алкоголя, тусовки у подъезда, поездки за город со своей компанией. Также в это время копируются любые отношения. И если отношения в семье не удовлетворяют, начинается поиск подростковых групп, взгляды и ценности которых близки по духу подростку.

Подростку нужно пройти этот период, можно так сказать, потренироваться и подготовиться к вступлению во взрослую жизнь. Хотя лишь небольшая часть подростков достигает высокого уровня социального сознания, и немногие способны принять на себя ответственность за других. В наше время более распространённым является такое явление, как социальная инфантильность. О чём мы и поговорим в следующий раз. Мудрости Вам и долголетия.

***Юрий Романюк***

***P.S.*** *Вопросы психологу Юрию Романюку можно задать на сайте "Каталіцкага Веснікa": catholicnews.by. Автор постарается ответить на них в следующих публикациях.*

## Дзеці – люстэрка сям'і

**Напэўна, кожны з нас хоць раз на дзень глядзіцца ў люстэрка, каб упэўніцца, што ўсё ў парадку. Люстэрка падказвае, што неабходна падправіць, каб не сорамна было "выйсці ў людзі".**

**■ Алена Пажога**

У сям'і таксама ёсць своеасаблівае "люстэрка" – дзеці. Паназіраўшы за іх паводзінамі, можна ўбачыць, якія каштоўнасці ў пашане ў сям'і, якія адносіны паміж членамі сям'і, якая культура камунікавання. Для дзетак дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту мама і тата – неаспрэчны аўтарытэт.

Сям'я – калыска жыцця і першая жыццёвая школа. Бацькі – галоўныя настаўнікі. Яны вучаць, як размаўляць адно з адным, як слухаць адно аднаго, як прызнаваць памылкі, як даравацць і кахаць. Сынок або дачушка капіруе паводзіны бацькоў у розных жыццёвых абставінах. І калі дарослыя незадаволены паводзінамі сваіх нашчадкаў, ім варта крытычна паглядзець на сябе. Як напісаў М.В. Гогаль у прадмове да камедыі "Рэвізор", "на зеркало нечего пенять, коли рожа крива". Бацькі павінны адчуваць адказнасць за вынікі выхавання сваіх дзяцей перад Богам і грамадствам. Нездарма народнае выслоўе кажа: ад яблыні – яблык, ад елкі – шышка.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**13 студзеня 2012 г.** **Лк 3, 15-16, 21-22**

Чалавечыя намаганні Яна Хрысціцеля, каб падрыхтаваць выбраны народ да прыйсця Збаўцы, вельмі каштоўныя і патрэбныя. Ён, выконваючы Божую волю, заклікае ўсіх адрачыся ад граху. Езус прыносіць новую якасць у жыццё свету. Ён прыносіць Божае Валадарства, гэта значыць, жыццё Бога ў сэрцы вернікаў. Ён робіць нас Божымі дзецьмі і святыняй прабывання Бога. Ён нас ачышчае і распальвае. І робіць гэта з дапамогай Божай сілы. Езус увайшоў у нашу грэшную рэчаіснасць, у Іярдан нашых грахоў, каб дапамагчы нам дасягнуць Божага Валадарства.

*– Ці бачу зло грэху?*

*– Ці разумею, што грэх знішчае любоў?*

*– Ці прызнаю свой грэх?*

*– Ці хачу адрачыся ад зла грэху?*

*– Ці перапрашаю Бога?*

*– Ці дазваляю Яму ўвайсці ў свет маіх грахоў?*

*– Ці адкрываю Яму свае балючыя месцы: хворую гісторыю свайго жыцця, хворыя эмоцыі, слабасці?*

*– Ці супрацоўнічаю з ласкай Божай, якую Ён ува мне распальвае?*

*– Ці клапачуся пра рэгулярнае прыманне Святой Камуніі?*

*– Ці шчыра спавядаюся?*

*– Ці паслухмяны Божай навуцы?*

**20 студзеня 2012 г.** **Ян 2, 1-12**

Марыя – першая паміж вучнямі Езуса. Яна на працягу доўгіх гадоў дазваляла Богу фармаваць сваё сэрца. Як добры вучань Езуса, Марыя мае ўражлівасць на людскія патрэбы, а таксама бязмежны давер волі Езуса. Яе словы – "тое, што Ён скажа вам, зрабіце" – з'яўляюцца заклікам для вучняў усіх часоў. Езус здзяйсняе цуд для аб'яўлення сваёй славы перад вучнямі. Вучань Езуса – гэта той, хто шукае і заўважае знакі Божых спраў у свеце. І ўпэўнена ідзе за Езусам.

*– Хто ў маім жыцці Марыя?*

*– Ці гляджу на Яе як на ўзор чалавека, што жыве згодна з Божай воляй?*

*– Ці заўважаю патрэбы іншых?*

*– Ці даяраю Езусу?*

*– Ці раблю тое, што Ён мне гаворыць?*

*– Ці шукаю волі Бога?*

*– Ці заўважаю Божыя справы ў маім жыцці і ў жыцці іншых?*

*– Ці, захоплены Езусам, іду за Ім ?*

*– А можа, хачу захапіць сабой Езуса і прымусіць Яго ісці за мнойой?*

**27 студзеня 2012 г.** **Лк 1, 1-4; 4, 14-21**

Абвяшчаць Евангелле – гэта значыць, служыць Слову і абвяшчаць пра ўбачанае. У жыцці і навуцы Езуса выконваюцца прароцтвы Слова. Ён Той, Які прыносіць Божае Слова. Ён ёсць Божае Слова. Слухаць Божае Слова – гэта значыць, слухаць Езуса. Верыць Божаму Слову – гэта значыць, верыць Езусу. Служыць Божаму Слову – гэта значыць, служыць Езусу.

*– Ці разумею, што, абвяшчаючы Евангелле, служу Езусу?*

*– Ці сведчу пра ўбачаныя Божыя справы?*

*– А можа, хачу навучыць кагосьці прынцыпам хрысціянскай веры, але забываюся пра Жывога Бога?*

*– Ці веру, што навука Святога Пісання і Касцёла – гэта навука Жывога Бога?*

*– Ці слухаю Святое Пісанне як Слова Езуса?*

*– Ці веру ў Божую навуку?*

*– Ці выконваю тое,чаму вучыць мяне Езус?*

**3 февраля 2012 г.** **Лк 4, 21-30**

Езус – Жывое Слова – тлумачыць сэнс Божай навукі. Сваякі Езуса не могуць зразумець, як гэта паміж імі вырас Езус. Так часта бывае, што чалавек хоча , каб Божае Слова датычыла спраў аддаленых, а не штодзённых. Гэта страх перад усведамленнем, што Бог можа дзейнічаць і ў штодзённым жыцці простага чалавека, у маім асабістым, прыватным жыцці. Гэты страх мае такую моц, што чалавек гатовы забіць Езуса – Жывое Слова. Бо Ён не падыходзіць, не сыходзіцца з маім поглядам на Божую навуку.

*– Ці веру, што Езус – крыніца мудрасці? Што Ён лепш ведае, дзе – дабро, а дзе – зло?*

*– Што перашкаджае мне прыняць Яго навуку цалкам?*

*– Якія страхі апаноўваюць мяне, калі чую Яго навуку?*

*– Чаго яны датычаць?*

*– На якія справы майго жыцця маю іншы погляд, чым Езус?*

*– Ці запалоханы сваімі страхамі не хачу адкінуць Езуса?*

*– Ці размаўляю з Езусам, святаром, прыяцелем пра свае страхі?*

*– Ці стараюся іх перамагчы?*

*– А можа, вырашыў не думаць пра гэта, а жыць так, як жывецца?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**

*Добрая Вестка ў тваім доме!*

Каталіцкі ВЕСНІК

№1(22)
студзень 2013 г.



# Лучай калядны

■ **с. Марына Брылёнак**, *тэкст;* **Андрэй Мацур**, *фота*

Перыяд Божага Нараджэння ў Каталіцкім Касцёле вельмі багаты ў сваёй традыцыі, багаты ў перажыванні розных святаў і ўрачыстасцяў. Гэта час, калі чалавек асаблівым чынам адкрывае сваё сэрца для іншага. Шматлікія парафіі арганізоўваюць дабрачынныя акцыі, каб як мага больш людзей маглі адчуць сапраўдную радасць Нараджэння Хрыста і Божую любоў. Таксама амаль паўсюдна існуе традыцыя прадстаўляць у касцёлах батлейкі. Гэта яшчэ адзін спосаб данесці вестку аб нараджэнні Дзіцяці кожнаму чалавеку. Такія прадстаўленні дапамагаюць наглядна ўбачыць і перажыць радасць прыйсця Езуса на гэты свет.

У парафіі святога Юды Тадэвуша ў Лучаі вернікі вельмі ўрачыста адзначылі Нараджэнне Хрыста. А вось на свята Аб'яўлення Пана дзеці і моладзь парадавалі ўсіх прысутных невялічкай тэатральнай пастаноўкай "Езус нарадзіўся, хадзем паклонімся Яму!" Праз батлейку маладыя артысты прагнулі наблізіць да кожнаму прысутнага той хвалюючы момант – Нараджэнне Хрыста.

Святочны перыяд Божага Нараджэння неўзабаве скончыцца, але гэтая атмасфера дабрыні і ўзаемнай цеплыні павінна застацца ў нашых сэрцах разам з Маленькім Хрыстом – Уцелаўлёным Богам.

# Батлейка ў Глыбокім

**У парафіі Святой Тройцы, у Глыбокім, адбылося прадстаўленне пра Божае Нараджэнне, падрыхтаванае дзецьмі, пад кіраўніцтвам с. Ганны Блышко. Дзеці доўга і старанна рыхтаваліся, бо гледачоў на такую імпрэзу збіраецца заўсёды шмат. На маладыя таленты прыходзяць паглядзець і бацькі, і бабулі з дзядулямі, і браты, і сёстры, і проста парафіяне.**

■ **Марына Раманчук**, *тэкст; фота з архіва парафіі*



Галоўны сэнс, можа, не столькі ў тым, каб прыгожа паказаць інсцэніроўку (хоць і гэта, канешне ж, важна), колькі ў тым, каб умела перадаць праўду пра таямніцу нашага збаўлення, якой ёсць для нас Нараджэнне Езуса-Збаўцы. І нашым малавым акцёрам сёння гэта ўдалося.

У маім дзяцінстве, калі казаць пра такія сцэнкі-батлейкі, было ўсё даволі проста і традыцыйна: Святая Сям'я, анёлы, пастушкі, тры Мудрацы. Сёння ж у прадстаўленнях можна ўбачыць каго заўгодна: і бяздомных, і нават Рымскага Папу.

Радуе, што падзеі Бэтлеемскай Ночы натхняюць аўтараў на стварэнне такіх вось незвычайных сцэнароў. "Нетрадыцыйнай" была і нашая сцэнка-батлейка, бо, апрача пастушкоў, дарогу ў Бэтлеем шукалі прадстаўнікі народаў Афрыкі, Паўночных краін (эскімосы) і індзейцы. І гэта было вельмі сімвалічна, паколькі Касцёл адзначае Урачыстасць Аб'яўлення Пана. *"Паказаў Пан сваё збаўленне, перад вачыма народаў аб'явіў сваю справядлівасць"* (Пс. 98(97), 2).

Спадзяёмся, што нашы таленавітыя дзеткі і ў наступным годзе парадуюць усіх падобным прадстаўленнем.

# Падарунак на свята

*"Бліжні – гэта не той, каго я люблю. Бліжні – гэта кожны, хто да мяне прыбліжаецца, кожны – без выключэння."*
Св. Эдыта Штайн

■ **Вікторыя Колзун**, *тэкст і фота*

**Ці задумваліся вы калі-небудзь над пытаннем: "Хто мой бліжні?" Бліжні – гэта сям'я, родныя, сваякі, сябры, суседзі… А ці ёсць сярод такога кола бліжніх у вашым жыцці месца для слабых, адзінокіх і пакінутых?**

27 снежня валанцёры з парафіі св. Антонія Падуанскага ў Віцебску павіншавалі з Божым Нараджэннем святочным канцэртам жыхароў Віцебскага дома-інтэрната састарэлых і інвалідаў. Валанцёры паказалі цікавую калядную пастаноўку, а з вуснаў святароў прагучалі словы віншаванняў і шчырых пажаданняў.

Жыхары дома-інтэрната таксама падзяліліся сваімі талентамі: хтосьці чытаў уласныя вершы, хтосьці спяваў прыгожыя песні, а хтосьці нават і затанчыў беларускую польку. А пасля ўсе разам праспявалі калядныя спевы.

На працягу ўсяго свята панавала хатняя атмасфера ўзаемнай любові і добразычлівасці. Шчырыя ўсмешкі і ласкавы позірк бліжніх – найлепшы падарунак на святы!



# Надо только верить!

**Я была безгранично счастлива, когда узнала о своём положении. И почему-то практически была уверена, что у меня будет девочка (т.к. у меня два старших мальчика).**

Меня направили на скрининг. И тут… на смену моей радости и надежде приходят страх и неизвестность. Поставили диагноз: шеечная миома больших размеров. В кабинете УЗИ на меня посмотрели как на изгоя, задали вопрос: «Сколько у вас детей?» Это меня ещё больше насторожило.

Затем больница. Консилиум. Звучал приговор: «Мы должны удалить у вас матку и ребёнка». А у меня уже 16 недель беременности. Я Её видела на УЗИ, я знаю, что это девочка, я её уже люблю, я с ней разговаривала. У меня просто шок! Я не верила, что врачи, которые должны лечить и спасать людей, предлагают мне пойти на убийство и говорят такие страшные вещи.

Дело было во вторник, а на четверг назначили ещё один консилиум. В это время за меня и благоприятное решение важного жизненного вопроса молились мои близкие и я тоже. Но была сама не своя. Продолжала молиться… Моя сестра предложила проконсультироваться у её подруги Анастасии, которая занимается вопросами защиты жизни. Та дала телефон гинеколога из Борисова – Светланы Фоминичны, которая относится к категории врачей, делающих всё возможное для сохранения жизни детей. Она внимательно выслушала мою проблему, оказала квалифицированную помощь и огромную моральную поддержку. Тогда ко мне пришла твёрдая уверенность: «Я буду рожать!»

Ещё один консилиум. Решение врачей: не прерывать беременность…

Мне сделали кесарево сечение и удалили матку. На свет появилась прекрасная, здоровенькая малышка. Ей уже четыре месяца. Сейчас даже не могу представить, что её могло не быть. Я чувствую немного и свою вину, надо было предварительно обследоваться, прежде чем думать о зачатии ребёнка. Но меня ничего не беспокоило, и я даже не подозревала, что могут возникнуть такие проблемы.

После пережитого мною хочу посоветовать: если у кого-то возникают проблемы во время беременности, а врачи говорят о «безнадёжности» или выступают за аборт, ни в коем случае не идите на убийство, доверьте эту беду Богу. Обязательно проконсультируйтесь с другими специалистами. Бог пошлёт вам нужных и смелых людей, умеющих поддержать и лучше разобраться во всей ситуации. И вы не будете одиноки. Над нами есть высшие силы, и они обязательно помогут, надо только верить! Боритесь за жизнь своих детей!



*Текст записала* ***Анастасия Ковалевская***
*Фото из семейного архива Татьяны*
***На фото:*** *ребёнку четыре месяца*

**Шаноўны ксёндз Адам Квяткоўскі!**

*Касцельная супольнасць "Маці ў малітве" парафіі "Нараджэння Маці Божай" у г. Браславе сардэчна віншуе Вас са святамі Божага Нараджэння, імянінамі і Днём нараджэння. Жадаем Вам трывалай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых Божых ласкаў, дароў Духа Святога, сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых намераў, а таксама зычлівых людзей на святарскім шляху.*

*Дзякуй Вам за радасць супольнай малітвы. Няхай міласэрны Бог блаславіць кожны дзень Вашай святарскай паслугі!*

**Віншуем пробашча парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім кс. Мечыслава Янчышына з Днём нараджэння і Новым годам!**

*Мы ўдзячныя Пану Богу, што ў нас служыць святар, які заўсёды знаходзіць для кожнага добрае слова, вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў працы і ў малітве. Мы любім нашага паважанага пробашча і жадаем яму ўсіх патрэбных даброт, плённай працы, моцы Духа Святога. Няхай Пан Бог асвеціць ягоны шлях, а Маці Божая атуляе сваёй ласкай.*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі з вёскі Гірстуны***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:**
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Таццяна Смоткіна
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 359

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 14.01.2013 г. у 20.56

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ